№ 4

НЯХАЙ ЖЫВЕ 1 МАЯ






# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

# ПЕРШАЕ МАЯ

АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

Гэй, ад краю ў край спявай!
Сёння свята—Першы май.
На парад мы вышлі шчыра:
Раз,
Два,
Тры,
Чатыры!
На парад, за радам рад,
Ударных шмат ідзе брыгад.
Мы таксама брыгадзіры:
Раз,
Два,
Тры,
Чатыры!
Ёсць на свеце 'шчэ паны,
Ім так хочацца вайны...
Мы будуем справу міру:
Раз,
Два,
Тры,
Чатыры!





В. І. ЛЕНІН

23 КРАСАВІКА 1935 г. СПОЎНІЛАСЯ 65 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАЙВЯЛІКШАГА НАСТАЎНІКА І ПРАВАДЫРА ПРАЦОЎНЫХ УСЯГО СВЕТУ— В. І. ЛЕНІНА.

ЮНЫЯ ЛЕНІНЦЫ—ПІОНЕРЫ І ОКЦЯБРАТЫ!
БУДЗЬЦЕ ГАТОВЫ ПРАДАЎЖАЦЬ І ЗАВЯРШАЦЬ
ВЯЛІКУЮ СПРАВУ ЛЕНІНА—СТАЛІНА!



*Н. К. КРУПСКАЯ*

# ПЕРШАЕ МАЯ Ў ССЫЛЦЫ

Н. К. КРУПСКАЯ

Было гэта даўно, за царом.

Паліцыя арыштавала Леніна. Яго пасадзілі надоўга ў турму, а потым выслалі ў Сібір, далёка ад чыгункі, у глухую вёску Шушэнскае. Прыехала да яго і я з маткай.

Апрача Леніна ў той-жа вёсцы жылі і другія ссыльныя: адзін фінскі рабочы—Аскар, другі польскі рабочы — Прамінскі. У Прамінскага была вялікая сям'я: жонка і шасцёра дзяцей. І Аскар, і Прамінскі часта прыходзілі да нас.

Вось настаў дзень Першага мая.

Раніцай прышоў да нас Прамінскі. Ён выглядаў па-святочнаму: надзеў чысты каўнерык, чыста вымыўся.

Утраіх—Ільіч, я і Прамінскі — пайшлі мы да Аскара. Узялі з сабой і Ільічовага паляўнічага сабаку Жэньку. Жэнька бачыў, што мы нечага радуемся, і стаў весела лётаць і цяўкаць.

У хаце, дзе жыў Аскар, мы паселі і пачалі дружна спяваць першамайскую рабочую песню.

Праспявалі мы па-руску, потым праспявалі па-польску тую-ж песню і парашылі пайсці пасля абеду адсвяткаваць май у поле. Як парашылі, так і зрабілі.

У поле нас пайшло цэлых шэсць чалавек, бо Прамінскі ўзяў сваіх двух сыноў. У полі было яшчэ мокра. Снег толькі-толькі яшчэ растаў.

Калі знайшлі ў полі сухі ўзгорак, Прамінскі спыніўся: дастаў з кішэні чырвоную хустачку, разгарнуў яе на зямлі і ўстаў на галаву. Дзеці запішчалі ад радасці.

Вечарам сабраліся ўсе ў нас. Прамінскі прышоў з жонкай і дзецьмі. Спявалі ўвесь вечар рэволюцыйныя песні. Спявала і мая маці і чатырнаццацігадовая дзяўчына Паша, якая жыла ў нас.

Пасля вечара мы з Ільічом доўга не маглі заснуць: усё думалі аб вялікіх рабочых дэманстрацыях, у якіх мы калі-небудзь прымем удзел.

Прайшло з таго часу шмат гадоў. Цяпер Першае мая ў нас, у краіне Советаў, святкуюць мільёны рабочых і калгаснікаў. Яны святкуюць сваю перамогу. Яны шлюць сваё прывітанне рабочым усяго свету.

У другіх краінах няма яшчэ совецкай улады і капіталісты забараняюць рабочым выходзіць на вуліцу, але рабочыя іх не слухаюць, і 1-га мая выходзяць на вуліцы, на змаганне ўжо не дзесяткамі, а тысячамі, дзесяткамі тысяч.



# ПАРАДНЫ КАМАНДЗІР

С. Баранавых
Мал. В. Басава

Ідучы на сход піонерскага атрада, Віцік ведаў: яго могуць выбраць сёння парадным камандзірам.

Учора сказаў яму Лёва пад вялікім сакрэтам:

— Ці цябе, ці Рому. Я чуў ад важатага. У вас абодвых роўныя адметкі па вучобе.

Лёва нават пазайздросціў Віціку:

— Добра табе...—праказаў ён.— Каб не было ў мяне двух спазненняў— мо' і я быў-бы кандыдатам.

Віцік ішоў на сход і перад яго вачыма ўяўлялася:

Першы май. Будынкі адзеліся ў доўгія лозунгі. Кожны будынак гаворыць яркімі словамі - лозунгамі. Сцягі, як тое лісцё,—дражняцца з ветрам. На вулічных скрыжаваннях горада гучыць радыёмузыка. Музыка не такая, як кожны дзень, а святочная, яркая. Вуліца — нібы на ёй расцвіў мак. Рабочыя калоны, калоны... Расцвіў мак людзей і сярод яго гудуць чмялі— іграюць медныя трубы. А сонца іграе на трубах. Дзе ні глянь — усюды музыка. Яна льецца з усіх завулкаў веснавою паводкай. Яна залівае Пляц Волі. На пляцы—парад вялікага Мая!

І вось, сярод цвітучага дня—іхні піонерскі атрад. Ён ідзе нага ў нагу роўнымі радамі. Наперадзе атрада—парадны камандзір,—ён, Віцік. Ён з барабанам. У яго вялікая гордасць. Бо ён-жа вядзе ўвесь атрад пад тахты барабана.

... Тра-та-та... Тра-та-та...

... Тра-та-тра-та-тра-та-та-т...

— Раз-два!

— Раз-два!

Увесь пляц бачыць яго. Гэта-ж ён, Віцік, першы вучань атрада, бо ён-жа ідзе паперадзе. Усе глядзяць на яго. За ім ідзе ўвесь атрад.

— Раз-два!

А каля трыбуны Віціка бачаць усе вялікія людзі рэспублікі.

І гучны голас з трыбуны:

— Піонерам—ура!

— Ура!—коціцца рэха ў тысячу галасоў.

Ах, які ён вялікі, цёплы Май!

* * *

На такі сход прышлі ўсе піонеры атрада. Важаты атрада, Жэня, вёў сход. Гаварыла настаўніца, Марына Сямёнаўна.

Яна ўстала з крэсла, зірнула на журнал з адметкамі ды сказала:

— Першымі па адметках ідуць Рома Карнейчык і Віцік Саўчык. Як у Ромы, так і ў Віціка ўсе прадметы на „добра". А па дысцыпліне ў іх „вельмі добра".

Яна ўзняла вочы, акінула позіркам увесь клас, дзе адбываўся сход. Віцік сядзеў на задняй скамейцы, разам з Карасікам. Марына Сямёнаўна нават крышачку здзівілася: „Як-жа гэта ён не спазніўся на сход?"

Карасік заўсёды позніцца на першыя ўрокі. Ён кожны раз сядзіць на скамейцы тых, што позняцца.

Свайго здзіўлення Марына Сямёнаўна цяпер, перад класам, не паказала. Яна пазірала на Віціка і гаварыла:

—... У абодвых—на „добра". Толькі ў Віціка апошняя пісьмовая работа—з плямамі, і малюнкі нейкія брудныя намаляваны. І я лічу, што першым парадным камандзірам павінен быць Рома.

Віцік аж прыўзняўся ад такіх слоў.

— Марына Сямёнаўна...—ледзь не скрозь слёзы праказаў ён,—Марына Сямёнаўна...

Жэня перапыніў Віціка:

— Табе будзе дадзена слова.

— Хай гаворыць,—сказала настаўніца.—Што ты хочаш сказаць?

Віцік вышаў з-за скамейкі. Ён застанавіўся на праходзе і разгубленым голасам сказаў:

— У мяне — чысты сшытак... Марына Сямёнаўна, у мяне ніколі не было плям...

— Я ведаю, што не было,—праказала настаўніца. — І ты заслугоўваеш першых радоў. Але, вось...

Яна расхінула віцікаў сшытак і трымала яго перад усім класам.

— Вось, бачыш...

Віцік пазіраў і не верыў сваім вачам. Другая і трэцяя старонкі апошняй пісьмовай работы былі ў вялікіх размазаных плямах. Нібы нехта наўмысля памачыў палец у чарніла і павадзіў па пісанаму.

Віцік стаяў і не ведаў, што сказаць. Марына Сямёнаўна чамусці ўсміхнулася. Вучні зірнулі адзін на аднаго ў непаразуменні. У некаторых было ў думцы: „Навошта-ж гэта Віціку маніць?“ Другія падумалі: „Як-жа гэта можна так запляміць“. Жэнька абарваў ціхату і праказаў:

— Факт. Будзем галасаваць. Хто за роману кандыдатуру...

Але ён не дагаварыў. З-за скамейкі вышаў Рома. Ён увесь расчырванеўся.

— Я прашу слова,—падышоў ён да стала.

Зноў настала цішыня. І ў гэтай цішыні, спяшаючыся, глытаючы словы, Рома сказаў:

— Гэта зрабіў ён... Карасік. Калі мы былі на пераменцы, ён узяў і намазаў у віцікавым сшытку. Ён мне сказаў, што Віцік не будзе камандзірам. А я не хачу быць падложным камандзірам.

Рома змоўк. Піонеры азіраліся то адзін, то другі на Карасіка. І ўсе маўчалі. Карасік цяпер аж мяняўся з твару. Ён хаваў свой твар за скамейку, каб на яго не глядзелі.



Жэнька зноў парушыў маўклівасць:

— Карасік, навошта ты так зрабіў?—запытаў ён у яго. Карасік вінавата маўчаў. Рома адказаў за яго:

— Карасік казаў мне, што Віцік не хацеў гуляць з ім у „рэшку". Хай ведае, казаў.

Нехта захіхікаў. Марына Сямёнаўна зрабіла цяпер сур'ёзны твар. А Жэнька не сцярпеў:

— Такі вучань не павінен насіць званне піонера. Мы гэта пытанне паставім на абгаварэнне асобна. Цяпер давайце будзем галасаваць.

Карасіку хацелася зараз сказаць усяму атраду: „Я больш не буду". Але ён не сказаў. Яму было вельмі сорамна.

А піонеры не ведалі за каго галасаваць. І Віцік і Рома—адны з лепшых.

Тады важаты ўнёс прапанову:

— І за Віціка і за Рому. Яны ўдвох падзеляць мейсца. Адзін будзе парадным камандзірам, а другі—яго памочнікам.

І выбары прайшлі аднагалосна. Карасік таксама галасаваў. Ён толькі трымаў паднятую руку і стараўся, каб ёю закрыць ад таварышоў свае вочы.

★ ★ ★

ЯНКА КУПАЛА

# МАЙ

Ходзіць май па свеце,
Сонцамі ірдзіцца,
Закаваных, спячых
Кліча ўстаць, збудзіцца.

Далятае голас
Вялікага свята
Ў нетры сутарэнняў,
У курныя хаты.

Ходзіць май па свеце,
З думкаю распетай:
Возьмуць на ўсім свеце—
Возьмуць верх Советы.

Чырванню шаўковай
Зашумяць штандары,—
Хто ў няволі гнуўся—
Ўстане гаспадарыць.

Ходзіць май па свеце
Многалюдны, буйны,
І складае песні
Сусветнай Комуны.

Чалавек не будзе
Ўжо над чалавекам
Панаваць крывава,
Як дасюль—з прадвекаў.

Ходзіць май па свеце...




# Іванька Прастачок

**Народная казка**
**Малюнкі К. Гедды**

У нейкай адной краіне жылі былі людзі. Гаравалі-працавалі, але бяды не мелі.

Толькі вось аднекуль узяўся і пачаў прылятаць сюды страшны Змей. Пачаў Змей лятаць, дабро цягаць, а нарэшце і людзей хапаць. Панацягвае Змей адусюль людзей, згоніць іх у адно месца ды і прымушае будаваць сабе палацы, акопваць іх равамі, абсыпаць насыпамі, абгароджваць частаколам, каб ніхто не змог туды ўвайсці.

Будуюць людзі, капаюць канавы, насыпаюць насыпы, нібы горы— і датуль пакутуюць, пакуль тут-жа і не гінуць. От набудавалі Змею шмат такіх загародкаў, праклалі паміж іх дарогі, а ён усё лётае ды цягае ў свае загароды людзей і людское дабро.

Працуюць людзі, гаруюць, а тут наляціць Змей, аграбіць усё, і людзі пухнуць з голаду, мруць, нібы мухі. Няма ратунку ад ліхога Змея.

Тым часам тыя людзі, што сталі прыслужваць Змею, цягаюць сабе людское дабро, нічога не робяць ды толькі сала гадуюць. І стала бедным людзям горай ад іх, як ад Змея, бо ведама гэтых важных змеевых слуг вельмі многа развялося.

Няма ў іх літасці—з жывога скуру здзяруць. І пачалі яны лічыць людзей горш за жывёліну, пачалі сароміцца, што самі яны людзьмі завуцца. Вось і павыдумлялі сабе змеевы прыслужнікі розныя прозвішчы. Хто назваў сябе ваўком або мядзведзем, хто арлом або каршуном. Вось адкуль і пайшлі паны Свінскія, Ваўкоўскія, Каршуновы і шмат іншых.

Тым часам пастарэў Змей, абяссілеў і ляжыць, нібы падла. Ляжыць ён на адным баку тысячу гадоў, пачаў ужо гнісці, і такі смурод ад яго пайшоў—дыхаць нельга.

Але паны абнюхаліся ды і кажуць, што гэта пах такі, што гэта толькі дурныя мужыкі не ведаюць, што смярдзіць, а што пахне.

І чым далей, тым усё горш людзям жывецца. Ужо і паны загніліся.

І служаць людзі дохламу Змею, служаць тым звярам—панам, аддаюць ім апошняе, а самі ходзяць галодныя, халодныя, за працаю свету не бачаць.

Так і жылі людзі ад веку да веку. Адны паміралі, другія нараджаліся, і не было ніякай палёгкі.

* * *

Але вось нарадзіўся ў той краіне хлапчук. Быў ён вельмі благенькі, вельмі худы: як занепаў змаленства, так і астаўся на ўсё жыццё. Ні паны, ніхто яго не чапае, бо ён такі нехлямяжы, што нікому не патрэбен. От і вырас ужо ён, але ўсё гуляе з дзецьмі, як маленькі. І празвалі яго людзі Іванькам Прастачком.

Узімку сядзіць сабе Іванька Прастачок на печы ды з лучынак цацкі складае, а ўлетку з дзецьмі пясочак перасыпае.

Гэтак пражыў ён гадоў трыццаць.



*Панацягвае Змей адусюль людзей і прымушае будаваць сабе палацы...*

Аднойчы сядзіць Іванька Прастачок ля прызбы, аж глядзіць ідуць тры старцы. Падышлі яны пад хату і селі на прызбе адпачыць.

У вёсцы ні жывой душы—усіх выгнаў пан на работу.

Сядзяць старцы на прызбе, адпачываюць ды ў люлькі тытуну насыпаюць. Раптам успомнілі, што няма ў іх агню. Пабег Іванька ў хату, набраў у прыгаршчы жару і прыносіць старцам. Закурылі яны люлькі, падзякавалі Іваньку ды пытаюцца ў яго, што ён робіць.

— Пясочак перасыпаю, — кажа Іванька. — Бо што ні рабі, то ўсё на паноў ідзе. А нашы людзі дурныя, робяць дзень і ноч, са ўсяе сілы пнуцца. Работу спраўляюць, а ліха маюць, бо паны ўсё да сябе грабуць, а з мужыкоў скуру дзяруць: мучаць, калечаць, збіваюць і літасці не маюць.

Паслухалі тое старцы, галовамі паківалі, узяліся за дудкі ды і зайгралі.



*Дудка свішча, дудка грае, людзей навучае...*

Першы раз зайгралі — Іваньку розум далі, другі раз зайгралі — сэрцу жаласць прыдалі, трэці раз зайгралі—язык Іваньку развязалі.

* * *

Зніклі старцы, а Іванька Прастачок стаў ужо не дурачок, пачаў за справу брацца ды ў свет збірацца. Зрабіў дудку-весялушку ды зайграў так хораша, так жаласліва, што не толькі людзі, а звяры і птушкі пачалі яго слухаць і ў круг збірацца.

І стаў Іванька Прастачок па свеце хадзіць, у дудку граць, людзей збіраць ды праўду ім казаць.

Як зайграе, так і ўбачаць людзі, што вялікая крыўда на свеце, што адны пануюць — другія гаруюць; адны багаццю ліку не маюць, а другія з голаду паміраюць.

І пайшоў ад Іванькавай дудкі голас па ўсім свеце. Пачалі людзі думаць ды гадаць як за праўду пастаяць.

Пачулі змеевы слугі той вялікі голас і спалохаліся. Пачалі войска збіраць ды Іваньку шукаць.

Чуюць голас на ўсходзе — шась туды: пікі як лес тарчаць, гарматы грымяць,—а Іванькі не відаць.

Раптам, чуюць голас на захадзе: грае дудка-весялушка, грае—людзей навучае. Кінуцца паны на захад: гоняць коней, бягуць самі, шаблямі звіняць, на ўзвей вецер з гармат страляюць, а Іванькі не спаймаюць.

Гудзе дудка, грае—паноў жудасць забірае, мароз бяжыць па спіне.

І з тых часоў змеевым слугам няма спакою ні ўдзень, ні ўночы, бо бяды яны сабе чакаюць, як вол доўбні.

Дудка свішча, дудка грае, пошчак па свеце гуляе, людзей навучае. Яго не злавіць і з гармат не забіць. Сам ён хоць без цела, ды вялікую сілу мае.

„Ой ды, дудка мая,

Весялушка мая!“

* *



# ЯГО ІМЯ

Апавяданне А. Каллінскай
Малюнкі А. Шахрая

У Італіі, у сям'і старога пастуха, нарадзіўся хлопчык.

— Як ты думаеш назваць яго?—спытаў стары ў Антоніо, бацькі гэтага дзіцяці.

— Ленін будзе яго імя,—радасна сказаў сын.

Дзед сам панёс унука ў гарадскую ўправу, каб запісаць імя дзіцяці. Там дзеда спыталі:

— Як назваць дзіця?

Стары пастух кашлянуў і адказаў:

— Бацька даў яму імя Ленін.

Начальнік гарадской управы і доктар адначасова павярнуліся да пастуха. Пісар нібы акамянеў з застыўшаю ў паветры рукою.

— Так сказаў мне сын: Ленін будзе яго імя,—цвёрда паўтарыў дзед.

— Ачмурэў і ты і сын твой!—закрычаў начальнік управы.—Няма такога імя! Дурні!

Дзед выпрастаўся і сказаў, нахмурыўшы бровы:

— Кожную нядзелю чытае мой Антоніо газету, і не было яшчэ ніводнага дня, каб гэта імя не ўспаміналася там шмат разоў.

— Пішыце яму імя—Ленін,—сказаў ён пісару. І зноў на хвіліну настала цішыня ў высокім старасвецкім зале.

Доктар падышоў да пастуха, нагнуўся над нованароджаным:

— Добры хлопчык. Паслухай, стары, навошта ты хочаш сапсаваць сыну і ўнуку жыццё!? Гэтага імені не даруюць ім. Ты ведаеш, у краіне строгасці... Не будзь такім упартым: назаві яго любым другім іменем.

— Ленін будзе імя яго!— крыкнуў стары пастух і вочы яго заблішчэлі.

Начальнік гарадской управы павярнуўся да пісара:

— Пішыце на яго галаву, — сказаў ён і злосна нахіліўся над паперамі.

Пастух, выцягнуўшы шыю, уважліва сачыў за пяром, якім пісаў пісар.

— Глядзіце, пан пісар, пішыце правільна. Я непісьменны, але мой Антоніо ўмее чытаць і па пісанаму. Ну, вось, шчыра дзякую вам,—сказаў стары, адыходзячы ад стала.

На двары дзед перадаў дзіця сваёй жонцы. Пры гэтым ён сказаў ёй:

— Нясі яго дахаты ды скажы матцы, каб добра накарміла. Мы з ім ужо вытрымалі сапраўдны бой.

Сказаўшы гэта, дзед націснуў на вочы капялюш і пагнаў авечак у горы.



*— Ленін будзе імя яго!—крыкнуў стары пастух.*



# НА НОВАЙ ЗЯМЛІ

Апавяданні А. Пакроўскай
Малюнкі А. Шахрая

## ПЕРШАЕ ПАДАРОЖЖА

У Ледавітым акіяне ёсць велізарны востраў — Новая Зямля. Там заўсёды холадна, у акіяне нават улетку плаваюць ільдзіны.

Хлопчык Грышка радзіўся на Новай Зямлі. Ён маленькі. Яму няма яшчэ і года.

Кузьма, Грышкаў бацька, займаецца паляваннем у акіяне на маржоў, цюленяў і белых мядзведзяў.

Калі прышла восень, Кузьма сабраўся на паляванне. Грышка з маткаю таксама едуць на паляванне.

У Кузьмы многа сабак, — дваццаць штук. Дваццаць сабак запрэглі ў двое санак. На адны санкі паклалі ўсё патрэбнае: палатку, муку, соль, сухары, кажухі, лыжы, стрэльбы, кацялок, дровы. На другія санкі села матка з Грышкам. Грышку яна схавала за пазуху. Яму цёпла ў матчыным кажуху.

Бацька бяжыць на лыжах каля санак. Маці падганяе доўгай палкай сабак.

Спераду бяжыць самы разумны і дужы сабака-важак. На шыі яго званочак: „дзінь-дзінь-дзінь!"...

Сабакі бягуць, стараюцца. Дваццаць мордачак выцягнуты наперад. Вострыя вушы падняты ўверх. Дваццаць чырвоных языкоў высунуліся амаль да самага снегу. Дваццаць калматых хвастоў загнуты на спіну.

Хутка-хутка перабіраюць сабакі пушыстымі лапкамі. Бягуць! Цягнуць з усіх сіл цяжкія сані.

На дварэ зусім сцямнела. Пара спыніцца на начлег.

Кругом толькі снег ды каменні. Ні дрэўца, ні кусціка. Але матка везла з сабою дровы.

Ярка запылаў агонь. У кацялок палажылі снег. Будуць піць чай з снегавой вады.

Сабак адпрэглі. Але есці ім не дадуць. Яны самі знойдуць сабе вячэру.

Усе дваццаць сабак пабеглі на паляванне. Яны разграбаюць снег, шукаюць норак маленькіх звяркоў—пяструшак.

Грышка прачнуўся. Яму нязручна, — ён мокры. Ён закрычаў: „Уа, уа, уа!"...

Маці дастала яго з-за пазухі, палажыла на калені. Раз, раз!—разгарнула шкурку і вось хлопчык ляжыць голенькі. Ён курчыцца, але не плача: мароз захапіў яму голас. Але маці схапіла жменю снегу і выцерла яго снегам замест купання. Раз, раз! і зноў загарнула ў цёплую шкурку.

Грышка не хоча болей плакаць: непрыемнасці скончыліся. Яму цёпла, горача каля агню. Агонь трашчыць і пускае ўверх чырвоныя іскры. Вада ў кацялку бурліць.

Грышка радуецца. Ён шырока раскрыў маленькія чорныя вочкі. Маці поіць яго гарачым чаем. Яна кладзе яму ў рот кавалачкі мёрзлага сала.

Павячэралі. Абагрэліся. Пара і спаць. Разгрэблі і ўтапталі снег. Разасланi скуры. Маці схавала Грышку за пазуху іляглі спаць.

Прыбеглі сабакі. Шукаюць, дзе цяплей. Узабраліся на людзей: на людзях мякка і цёпла. І людзям цёпла ад сабак.

Так і спяць: людзі на снягу, сабакі на людзях, а Грышка ў маткі за пазухай.

А ў скалах гудзе вецер: „Уууу... Уууу... Уууу"...

Вецер круціць віхры снегу. Снегам засыпае і сабак, і людзей. Але пад снегам яшчэ цяплей.

## СУСТРЭЧА СОНЦА

Скончыўся лістапад, мінуў снежань,—настаў студзень. У канцы студзеня на небе зноў пакажацца сонца, мінецца трохмесячная палярная ноч.

У пасёлку на Новай Зямлі ўсе чакаюць гэтага дня. Усім не цярпіцца. Больш за ўсіх чакаюць сонца дзеці. Кожны дзень у дванаццаць гадзін яны бягуць са школы на высокую гару. З гары лепш відаць. Дзеці хочуць першымі ўбачыць сонца.

З кожным днём ярчэй разгараецца святло на небе. Нарэшце прышоў апошні цёмны дзень. Заўтра пакажацца сонца.



*І вось пырснулі першыя праменні!*

Дзеці баяліся: а што, калі раптам хмары закрыюць неба? З вечара зарадзілі старую пушку. Падрыхтавалі сцягі.

Адзін дзед не спаў усю ноч,— усё хадзіў на гару, глядзеў, ці няма хмар.

Вось настала раніца. Неба было чыстае. Усе зарадваліся. Дзеці лёталі з гурбы на гурбу, куляліся ў снягу. Залазілі на стрэхі і скачваліся ўніз проста на жыватах. Сабакі бегалі і моцна брахалі.

На хатах вывесілі чырвоныя сцягі. Хутка дванаццаць гадзін. Усе пайшлі на гару. Маткі пабралі з сабою і самых меншых дзяцей, не зважаючы на мароз і вецер.

За людзьмі пабеглі сабакі.

На гары было яшчэ халадней. Вецер свістаў і мёў снег проста ў твар. Людзі збіліся ў кучу, ціснуліся адзін да другога, каб сагрэцца. Усе глядзелі на мора. А над морам разгаралася неба. Яно ружавела і чырванела, рабілася ўсё ярчэйшым і ярчэйшым.

І вось пырснулі першыя праменні! Залаты акрайчык сонца заблішчэў над морам, заблішчэў і асляпіў усіх.

— Сонейка! Сонейка!—загаманілі дзеці.

„Бах!"—выстраліла пушка.

„Тра-та-та!.. тра-та-та!.."—грымнуў залп: гэта выстралілі стрэльбы.

А сонечныя праменні аблівалі залатым святлом і людзей, і сабак, і горы, і камені, і снег, і мора. Людзі абнімалі адзін другога, смяяліся, хлопалі ў ладкі. Маткі выстаўлялі наперад да сонца маленькіх дзяцей. А дзеці старэйшыя крычалі і скакалі ў залатым сонечным святле.

## ПЕРШАЕ МАЯ

Сонца даўно ўжо кожны дзень высока падымаецца на небе. Ночы ўсё карацейшыя ды карацейшыя. Хутка іх зусім не будзе. Тады настане палярны дзень, які будзе цягнуцца некалькі месяцаў.

Пад праменнямі сонца снег і лёд блішчаць так, што баляць вочы.

Новазямельскія рэбяты слухаюць радыё. Гаворыць Масква. Маскоўскія рэбяты шлюць прывітанне дзецям усёй вялікай Совецкай краіны.

У Маскве зараз цёпла. На бульварах зелянее трава, расцвілі адуванчыкі, зацвітаюць дрэвы. Рабяты бегаюць у майках і трусіках.

На вуліцах сёння тысячы, дзесяткі тысяч рэбят.

А на Новай Зямлі ў самым вялікім пасёлку, у Малых Карманулах, рэбят зусім мала. У Карманулах адзіная на ўсю Новую Зямлю школа.

Мароз у дзень 1-га мая быў больш 30-ці градусаў. Халодны вецер збівае з ног, рве адзежу, вырывае сцягі з рук, кідае ў твар калючы снег.

Мароз залазіць у белыя кажухі, шчыпле рукі праз рукавіцы, марозіць ногі. Сабакі не разумеюць, чаго сабраліся, куды ідуць людзі ў такое надвор'е. Яны брэшуць і бягуць за людзьмі.

Дэманстрацыя скончылася. Хутчэй грэцца!

Рэбяты забеглі ў цёплую школу. Ім хочацца паслаць прывітанне рэбятам усяго СССР. Ім хочацца расказаць далёкім таварышам, у якіх цяпер вясна і кветкі, як яны, дзеці-ненцы, на краі зямлі, сярод снегу і лёду, святкавалі Першае мая. І вось хлопчык Вылка піша пісьмо:

*„ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!*

*Мы пачалі рыхтавацца да свята за тыдзень. У дзень свята мы разам з дарослымі пайшлі ўздоўж пасёлка.*

*Сцягі мы зрабілі з паперы. Вецер сарваў яго. У нас быў яшчэ свой плакат.*

*Так дайшлі да апошняй хаты. Тут старшыня гаварыў прамову, мы крычалі „ура“.*

*Было холадна. Хутчэй пабеглі ў школу. У школе гаварыў настаўнік і старшыня. Мы гулялі і спявалі“.*

*А. ВЫЛКА. Вучань Новазямельскай школы*

*У дзень свята мы разам з дарослымі пайшлі ўздоўж пасёлка.*






Янка Маўр
Мал. А. Волкава

*(Працяг. Пачатак у № 3).*

Кожны ведае, што такія дзеці, як Рома, ідучы па вуліцы любяць чапляцца рукамі за сцяну дома, за платы, і абавязкова застрэмяць пальцы. Калі стрэмку выцягнуць і рука загоіцца, яны зноў пачынаюць тое самае.

Шмат дзяцей пакутуе ад гэтага. Пакутаваў і Рома. А цяпер раптам ён перастаў адчуваць боль і мог садзіць стрэмак колькі ўлезе. Калі ён прышоў раз у дзіцячы сад з вялікай стрэмкай пад ногцем, дык усім тым, хто бачыў гэта, аж млосна зрабілася, асабліва, калі цёця Ліза пачала даставаць гэтую стрэмку ды заліваць ёдам.

А Рома толькі пасмейваецца:

— Нічога! Мне не баліць!

— Першы раз у сваім жыцці бачу такога трывалага хлопчыка! — дзівілася цёця Ліза.

А дзеці, дык нават не ведалі, як глядзець на Рому.

— Эх, каб і мне таксама не балела!—казаў кожны з іх.—Тады я быў-бы самым шчаслівым чалавекам у свеце!

Але пакуль што толькі адзін наш Рома быў самым шчаслівым чалавекам у свеце. Таму ён пачаў ганарыцца, задзіраць нос перад таварышамі.

Аднаго разу цёця Ліза ўбачыла, што ў пакоі, каля цацак, налілося многа крыві. Нават адна лялька, уткнуўшыся носам, ледзь не ўтапілася ў крыві. Цёця Ліза спалохалася.

— Дзеці! Што такое здарылася? У каго гэта кроў ідзе?

Дзеці спакойна паглядзелі адзін на аднаго, але пацярпеўшага не знайшлося.

— Адкуль-жа усё-ткі кроў? У каго што баліць?—дапытвалася цёця.

І зноў нікога не знайшлося. Тады крыкнула Зіна:

— Гляньце, у Ромы ззаду кроў цячэ!

— Адкуль? Што? Чаго ты выдумляеш?—агрызнуўся Рома.

Але выявілася, што кроў сапраўды цякла з яго: ён сеў на нейкі цвік, парваў штаны, пракалоў цела—і не ведаў гэтага, бо яму не балела. А крыві вышла шмат. Вось табе і геройства!

На гэты раз дзеці паглядзелі на Рому зусім без зайздрасці і сам ён крыху засароміўся, нібы зрабіў нешта дрэннае.

Неўзабаве здарылася новая бяда. Рома босы бегаў па двары, і ў садзе, і каля смяццёвай ямы, і па вуліцы; бегаў смела, не баяўся, што параніць нагу, не баяўся, што забаліць. Яго таварышы шмат разоў плакалі і раны на нагах завязвалі. А Рома толькі смяяўся з іх.



*Ромавы таварышы ўжо даўно перасталі лічыць яго за героя.*

А праз некаторы час наглядзела маці на ромавы ногі і ахнула: чаго-чаго толькі не было панасаджвана ў падэшвы і пальцы! І стрэмкі, і цвікі, і шкло, а ў ранкі паналазіла зямлі, бруду. Ад гэтага ногі пачалі гнісці, а Рома ўсяго гэтага не адчуваў!

Цяпер ужо маці не хваліла яго за тое, што ён цярплівы, а скардзілася ўсім:

— Вось няшчасце якое прышло! Хлопец не адчувае болю.

І прышлося ачышчаць ногі ад гною, як гнілую бульбу.

Рома глядзеў на свае завязаныя ногі, болю не адчуваў, але і радасці таксама не адчуваў. А таварышы яго не толькі ўжо не зайздросцілі, а пачалі пасмейвацца.

І што ні дзень, то новая бяда. Мухі, камары маглі рабіць на ромавым твары што хацелі. Калі ён убачыць іх вачыма, то згоніць, а калі не, то яны так і заставаліся.

Утыркнецца якім-небудзь чынам трэсачка ў шыю ці ў вуха, і Рома ходзіць з ёю на смех людзям.

Ромавы таварышы ўжо даўно перасталі лічыць яго за героя, даўно ўжо яму ніхто не зайздросціў, а, наадварот, глядзелі як на нейкага няшчаснага. Кожны быў рад, што яму баліць, што ён не такі, як Рома.

А Рома глядзіць на дзяцей і думае:

„Якія яны шчаслівыя! Ім баліць. Эх, каб і мне балела! Нічога лепшага я не хацеў-бы".



*Рома схапіў іголку і пачаў калоць сябе ўсюды.*

Нарэшце дайшло да таго, што Рому і на свеце жыць зрабілася немагчыма.

Маці ўстрывожылася, павяла яго да доктара. Доктар дзівіўся і не мог дапамагчы.

І вось аднаго разу Рома ўспомніў і расказаў матцы выпадак, які прывёў Рому ў такое становішча.

— Калі я лячыўся ў таго прафесара з вялікімі акулярамі, то заўважыў, што ён з аднэй бутэлечкі браў лякарства, упырскваў мне ў вуха і ад гэтага яно не балела тады, калі ён яго рэзаў. І вось я падпільнаваў момант, калі прафесар вышаў за дзверы, і выпіў гэтага лякарства.

— Дык вось у чым справа! — крыкнула маці і зараз-жа павяла Рому да таго самага прафесара.

Прафесар з дакорам паківаў галавою.

— Ай-яй-яй! Што-ж ты нарабіў? Ты-ж сам сабе папсаваў сігналізацыю. Боль — гэта сігнал, паведамленне аб бядзе, аб хваробе. Калі чалавек атрымае паведамленне, тады пачынае бараніцца, а калі ніякага паведамлення не атрымлівае, тады, бачыш, што выходзіць. Каб людзі не адчувалі болю, яны-б даўно ўсе загінулі.

І ён даў Рому выпіць другога лякарства.

Прышоў Рома дахаты, узяў іголкі і пачаў калоць сябе праз кожную мінуту—ці не баліць? Але прайшоў увесь дзень і нідзе не забалела.

Назаўтра як толькі прачнуўся Рома, падышла маці і ўшчыпнула яго.

— Ай, баліць!—крыкнуў Рома шчаслівым голасам і зараз-жа ўшчыпнуў сябе сам. Потым ускочыў, схапіў іголку і пачаў калоць сябе ўсюды. Усюды балела,—і Рома зноў адчуў сябе самым шчаслівым чалавекам у свеце.

★ ★ ★

## Як разрэзаць палоску і скласці зорку?

*Адказ на загадку, змешчаную ў № 3 за 1935 г.*



# МАЙСТАР-ЛАМАЙСТАР

Верш С. Маршака



Я вучыцца не хачу —
Каго хочаш навучу!
Я, брат, без навукі
Майстар на ўсе рукі!

Сёння буду сталяром —
Буду стукаць тапаром.
Я, брат, без навукі
Майстар на ўсе рукі!

Зараз трэба для сталовай
Змайстраваць буфет сасновы.
Падчашу я трошкі
На палічкі дошкі.

Раз, два
Па палене!
Тры, чатыры, —
Па калене!

Не ўдаецца мне буфет —
Лепш змайструю табурэт.
Я, брат, без навукі
Майстар на ўсе рукі!

Стукнуў-грукнуў малатком —
Цвік сагнуўся чарвяком!
Ўзяў другі. Махнуў рукой —
І другі сагнуў дугой.

Эт! не трэба табурэта,
Лепей раму для партрэта.
Малаток адкіну ў бок —
Пілкай выражу брусок.
Я, брат, без навукі
Майстар на ўсе рукі!

Зазызыкала піла,
Зажужжэла, як пчала.
Раптам трапіла на сук
І не слухаецца рук.

Я і гэтак, я і так —
Не пілуе аніяк!
Ні уперад, ні назад, —
Я і сам ужо не рад!

Ат! навошта рама?
Абыйдуся таксама.
Дый сякера тупая-ж,
Ды і пілка такая-ж...

Захацеў я нешта чаю —
Лепш лучыны нашчапаю.
Я, брат, без навукі
Майстар на ўсе рукі.

Трэсачкі калючыя,
Тонкія, гаручыя,
Затрашчаць, як на пажары,
Ў нашым новым самавары.

Гэй! сюды ідзі,
Сталяр,
Ды распальвай
Самавар!

Ты у нас не майстар,
Ты у нас ламайстар!

# Незвычайныя прыгоды Янкі Маланкі

*Па гэтых малюнках складзіце самі апавяданне*

















*Працяг глядзі на адвароце*

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
КРАСАВІК 1935 № 4

ЦАНА 30 КАП.



















*I... Янка Маланка прачнуўся на падлозе каля ложка.*

Адрас радакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.

Радактар А. ЯКІМОВІЧ

Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА

Друкарня ім. Сталіна 18.500 экз. Заказ № 285. Уп. Галоўлітбела № Б—1755.